Захаркевіч, С. А. Этнічныя меншасці Беларусі: вопыт сацыяльнай трансфармацыі ў XIX–пачатку XX ст. / С. А. Захаркевіч // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 242–249.

***С. А. ЗАХАРКЕВІЧ***

# ЭТНІЧНЫЯ МЕНШАСЦІ БЕЛАРУСІ: ВОПЫТ САЦЫЯЛЬНАЙ ТРАНСФАРМАЦЫІ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

Этнічныя меншасці Беларусі да сённяшняга часу застаюцца малавывучаным аб’ектам у айчыннай гістарыяграфіі. Пры наяўнасці шэрагу прац па асобных этнічных групах фактычна адсутнічаюць абагульняючыя даследаванні, у якіх яны разглядаліся б як адзіны, даволі складаны для разумення феномен.

Этнічныя меншасці з’явіліся на Беларусі ў XIV—XVIII ст. Характэрнай рысай гэтага перыяду было стварэнне пэўнага балансу інтарэсаў беларускага этнасу і мігрантаў у выглядзе комплексу прававых актаў, вызначыўшых іх стан. Аднак у другой палове XVIII ст. этнічныя меншасці Беларусі заставаліся традыцыйнымі групамі, якія зберагл і грамадскія мадэлі XIV—XVI ст. і ўжо не адпавядалі сацыяльна-палітычным і эканамічным памкненням Рэчы Паспалітай. Першыя крокі па мадэрнізацыі гэтых груп былі зроблены ў адносінах да яўрэяў у другой палове XVIII ст.: у 1764 г. быў распушчаны Ваад — яўрэйскі сойм; забаронены кагал; зроблена спроба рэфармаваць умовы жыцця [3, с. 7]. Аднак чаканага эфекту ўлады не атрымалі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, калі этнічныя меншасці Беларусі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, мадэрнізацыя гэтых груп стала праблемай расійскіх улад, якія не выпрацавалі адзіны падыход да гэтай праблемы, таму мадэрнізацыйныя праграмы ў дачыненні да этнічных суполак неабходна разглядаць паасобку.

У Расійскай імперыі значную колькасць складалі яўрэі. Менавіта яны вызывалі асаблівую ўвагу ўлад і з’яўленне так званага «яўрэйскага пытання». Першапачаткова правячая эліта Расіі не мела ніякага вопыту камунікацыі з яўрэямі; веданне паўсядзённасці яўрэйскага побыту амаль адсутнічала. Існавалі страхі і варожасць да іх праз прызму перажытай у XV—XVIII ст. ерасі жыдоўствуючых [6, с. 97]. Першыя крокі ўладаў былі непаслядоўнымі. З аднаго боку, працягвалася польская традыцыя разглядаць яўрэяў як асобны стан. Гэта праявілася ва ўвядзенні аднолькавага для ўсіх яўрэяў падатку. З другога боку, быў зноў створаны кагал, які закансерваваў сацыяльныя адносіны гэтай групы фактычна на стагоддзе. На думку С. Дубнова, аб «рускім яўрэйстве» можна гаварыць толькі з 1870-х гг.; да гэтага часу яны заставаліся хутчэй «польскімі яўрэямі» [4, с. 306]. Яўрэі былі геаграфічна абмежаваны пражываць па ўсёй



тэрыторыі імперыі. У 1791, 1794, 1795 гг. была створана так званая «мяжа аседласці», якая на працягу ўсяго стагоддзя то змяншалася, то павялічвалася і напрыканцы XIX ст. склала 15 губерняў.

Першапачаткова ўваход у Расійскую імперыю не аказаў моцнага ўплыву на традыцыйны ўклад жыцця яўрэяў. Яны працягвалі жыць кагаламі, зберагаючы ўсе рэлігійныя традыцыі. Аднак частковыя перамены ў грамадскім жыцці былі відавочны. Падчас падзелаў Рэчы Паспалітай невялікая частка заможных яўрэяў перажыла моцны працэс акультурацыі. У 1803 г. з’яўляецца першая яўрэйская кніга на рускай мове Іуды Лейбы Невахавіча [6, с. 104]. Масавыя культурныя змены пачаліся пасля адмены кагальнай сістэмы кіравання ў 1844 г. і стварэння новай сістэмы яўрэйскай адукацыі. Менавіта змены ў сістэме адукацыі яўрэяў стварылі падмурак для сацыяльнай трансфармацыі кансерватыўнай этнічнай групы. У 1864 г. створаны новы ўстаў гімназій і прагімназій, які дазваляў вучыцца яўрэям бех абмежаванняў. Вынікам гэтага стаў адыход значнай часткі яўрэяў ад старажытных традыцыйных норм жыцця і ўспрыманне еўрапейскіх норм гарадской культуры (Гаскала). Аднак на рубяжы 80—90-х гг. у расійскай грамадскай думцы ствараецца яўрэйскі «вобраз ворага» — яўрэя-драпежніка. Па краіне прайшла хваля пагромаў, назіраўся хуткі рост эміграцыі. Адбываецца масавы ўдзел яўрэяў у рэвалюцыйным руху. Цяжкасці прынесла і сусветная вайна. Ваенныя ўлады высялялі яўрэяў з прыфрантавой паласы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. «мяжа аседласці» была адменена і яўрэі ў вялікай колькасці рассяляюцца па ўсёй тэрыторыі былой Расійскай імперыі.

У дачыненні да іншых этнічных меншасцей Беларусі расійскія ўлады не распрацоўвалі спецыяльных праектаў мадэрнізацыі і інтэграцыі ў імперскае грамадства. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай міграцыйныя хвалі на тэрыторыю Беларусі працягваліся і ў асноўным былі звязаны са стараабрадцамі. Іх колькасць да 1914 г. дасягнула 100 тыс. чалавек. Паралельна разгарнуўся новы міграцыйны паток. Расійскія ўлады з мэтай узмацнення свайго ўплыву ў Беларусі пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчых рухаў фарміравалі новую мясцовую адміністрацыю толькі з рускага дваранства, запрошанага з Расіі. За другую палову XIX ст. рускае насельніцтва Беларусі павялічылася ў некалькі разоў і дасягнула лічбы 300 тыс. чалавек [2, с. 17].

Працэс уваходжання беларускай шляхты ў польскую культурную прастору стаў асаблівай крыніцай павелічэння колькасці палякаў на тэрыторыі Беларусі ў XVII — першай палове XIX ст. [1, с. 12].

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (асабліва пасля нацыянальна-вызваленчых рухаў 30—60-х гг. XIX ст.) расійскія ўлады рэалізавалі шэраг мерапрыемстваў, якія мелі мэтай нейтралізацыю польскага ўплыву. Доля палякаў у агульным складзе насельніцтва Беларусі на працягу другой паловы XIX ст. прыкметна знізілася (з 270 да 134 тыс. чалавек). Менавіта ў гэты час павялічылася колькасць тых, хто пачаў лічыць роднай беларускую мову. У пачатку XX ст., пасля адмены ў 1905 г. забароны на пераход з адной канфесіі ў другую, на тэрыторыі Беларусі (пераважна ў яе заходніх частках) адбылася новая змена этнічнай свядомасці і ідэнтыфікацыі [1, с. 13].

Асноўны прыток украінскага насельніцтва з яскравай украінскай самасвядомасцю трапіў на XIX — канец XX ст. Паводле перапісу 1897 г. украінцы складалі 22,6 % насельніцтва Гродзенскай губерні, многа іх было ў Кобрынскім і Брэсцкім паветах. У пачатку XX ст. вялікая колькасць украінцаў пражывала ў Пінскім, Кобрынскім, Брэсцкім, Гомельскім, Рэчыцкім, Слуцкім, Бабруйскім і Быхаўскім раёнах.

Масавая міграцыя латышоў на тэрыторыю Беларусі пачалася ў XVIII ст., найбольш інтэнсіўна працэс ішоў у 60—80-я гг. XIX ст.: у 1870 г. на Беларусі было 800—900 латышскіх перасяленцаў, у 1877—1883 гг. у Віцебскай губерні латышы ўжо складалі каля 50 % усіх перасяленцаў [7, с. 78]. Латышскія перасяленцы ўтваралі асобныя вёскі на Магілёўшчыне, хутары на Віцебшчыне. У 1897 г. шмат латышоў жыло ў Віцебскім (каля 4 тыс.), Полацкім (1,7 тыс.), Аршанскім (да 3,7 тыс.) і Быхаўскім (каля 1 тыс.) паветах.

Актыўная міграцыя літоўцаў на тэрыторыю сучаснай Беларусі адбываецца ў другой палове XIX ст. (70—90-я гг.). Паводле перапісу 1897 г. значныя кампактныя групы літоўцаў жылі ў Лідскім (17 285 чал.), Ашмянскім (8754 чал.), Гродзенскім (2814 чал.), Аршанскім (прыкладна 1400 чал.) і іншых паветах. Мігранты сяліліся асобнымі вёскамі і займаліся земляробствам і рознымі промысламі (дрэваапрацоўкай, ткацтвам, пчалярствам і інш). Перад Першай сусветнай вайной на Беларусі пражывала больш за 20 тыс. літоўцаў. Аднак падчас Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў колькасць літоўцаў на Беларусі значна скарацілася.

Да XIX ст. міграцыя немцаў на Беларусь была нязначнай. Вялікая група нямецкіх сялян пасялілася ў 1563 г. каля Буга і стварыла свае вёскі, да якіх пазней накіроўваліся шматлікія перасяленцы. У Брэсцкім ваяводстве ўзнік царкоўны прыход Нойдорф-Нойбау, дзякуючы якому нямецкія сяляне падтрымлівалі сувязь з роднай культурай. Да канца



XVIII ст. гэтыя паселішчы распаўсюдзіліся да Кобрына. Значная колькасць немцаў пасялілася ў Віцебскай губерні.

Другая хваля міграцыі немцаў назіралася ў другой палове XIX ст. і працягвалася да пачатку Першай сусветнай вайны. За гэты перыяд адбыліся тры масавыя хвалі нямецкай міграцыі на Беларусь. Да канца XIX ст. у Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях жыло каля 50 тыс. немцаў. Паводле перапісу 1897 г. іх налічвалася 49 073 чалавек (0,49 % супольнага насельніцтва Беларусі) [1, с. 12].

На рубяжы стагоддзяў назіралася міграцыйная хваля немцаў на Палессе з Валыні. Нямецкія каланісты набывалі зямлю ў Палессі (сучасныя Нараўлянскі, Ельскі, Лельчыцкі раёны Гомельскай вобласці). Памешчыкі Беларусі давалі ў арэнду немцам зямлю і хавалі іх ад уладаў, каб не выплачваць падаткі.

У час Першай сусветнай вайны колькасць нямецкіх каланістаў Беларусі значна змяншаецца. Гэта звязана з дэпартацыяй немцаў з прыфрантавой зоны ў Сібір. З 1897 па 1917 г. колькасць нямецкага насельніцтва Беларусі паменшылася з 50,8 тыс. чалавек да 36,1 тыс. чалавек. Знікла шмат нямецкіх кампактных паселішчаў на Беларусі.

Мадэрнізацыйныя праекты ў адносінах да этнічных меншасцей Беларусі расійскіх улад былі непаслядоўнымі і мелі незакончаны характар. З аднаго боку, палітычныя эліты імкнуліся стварыць умовы для інтэграцыі гэтых груп у імперскае грамадства, а з другога — працягваліся працэсы ізаляцыі і кансервацыі сацыяльных мадэлей ва ўласных палітычных мэтах. Такая непаслядоўнасць і нерашучасць улад у адносінах да сацыяльнай трансфармацыі этнічных меншасцей упершыню была пераадолена толькі ў межах БССР у працэсе рэалізацыі праграмы «беларусізацыі».

Улады БССР разглядалі этнічныя меншасці як адзіны сацыякультурны феномен, таму ў адносінах да іх паступова распрацоўвалася адзіная праграма ў межах савецкай нацыянальнай палітыкі.

Перш за ўсё ствараліся нацыянальныя секцыі ў камуністычнай партыі. У 20-я гг. існавалі Літоўскае бюро, Латышскае бюро, Польскае бюро, Яўрэйскае бюро пры ЦК КП(б)Б і яўрэйскія секцыі пры СНК БССР, ствараліся нацыянальныя савецкія арганізацыі на месцах. Згодна з пастановай Прэзідыума ЦВК БССР, прынятай у 1926 г. у месцах кампактнага пасялення этнічных меншасцей, ствараліся нацыянальныя сельскія Саветы. У месцах кампактнага пражывання польскага насельніцтва ў 1920—1930-я гг. існавала больш за сорак такіх нацыянальных

польскіх сельсаветаў. Быў створаны Койданаўскі (потым Дзяржынскі) польскі нацыянальны раён. У 20—30-я гг. XX ст. на Беларусі дзейнічала некалькі ўкраінскіх нацыянальных сельсаветаў. Было створана больш за дзесяць яўрэйскіх нацыянальных местачковых і сельскіх Саветаў.

У пачатку 30-х гг. узніклі нацыянальныя татарскія кааператывы (у далейшым калгасы) у Смілавічах («Прафінтэрн») і ў Мінску («Чырвоны агароднік»). У 1927 г. быў арганізаваны першы ў СССР цыганскі калгас «Новае жыццё», які паклаў пачатак аседласці цыган. Другі калгас існаваў у Жлобінскім раёне. У месцах кампактнага пражывання латышоў у Быхаўскім, Лёзненскім, Глускім, Клімавіцкім і Ушацкім раёнах былі ўтвораны нацыянальныя латышскія сельсаветы і калгасы. У 20-я гг. XX ст. у БССР налічвалася каля пяцідзесяці асобных літоўскіх паселішч. Таксама дзейнічалі два нямецкіх сельскіх Савета: у Нараўлянскім і Каралінскім раёнах Гомельскай вобласці.

Вялікае значэнне надавалася стварэнню сістэмы масавай адукацыі этнічных меншасцей на роднай мове і арганізацыі падрыхтоўкі ўласных настаўніцкіх і прафесійных кадраў. Пры Народным камісарыяце асветы БССР ствараліся нацыянальныя секцыі, якія распрацоўвалі ўласныя адукацыйныя праекты: польбюро, яўрэйскае бюро, латышская і літоўская секцыі. Настаўнікаў для польскіх школ рэспублікі рыхтавала польскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. У Койданаўскім нацыянальным польскім раёне працавала два польскіх прафтэхвучылішчы.

Для падрыхтоўкі нацыянальных яўрэйскіх кадраў былі адчынены яўрэйскія секцыі пры БДУ, педагагічных і настаўніцкіх інстытутах. Былі заснаваны тры яўрэйскіх педагагічных тэхнікумы (у Мінску, Гомелі і Віцебску), працаваў Мінскі настаўніцкі інстытут нацыянальных меншасцей, яўрэйскія аддзяленні на педфаку БДУ і Магілёўскім тэхнікуме палітычнай асветы, у саўпартшколе і сельгаспадарчым тэхнікуме.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску татарам была выдзелена школа, атрымаўшая назву «татарская» (гэта была сямігадовая школа № 26 на вуліцы Вызвалення), у якой да 1921 г. выкладалася татарская мова.

У месцах кампактнага пражывання латышоў і літоўцаў таксама працавалі нацыянальныя школы і хаты-чытальні.

Для эфектыўнай інтэграцыі этнічных меншасцей у беларускае грамадства вялікае значэнне мела развіццё ўласнай прафесійнай культуры. Кіраўніцтва БССР падчас «беларусізацыі» стварала добрыя ўмовы для яе развіцця. На тэрыторыі БССР падчас «беларусізацыі» актывіза-



валася нацыянальнае культурнае супрацоўніцтва палякаў з беларусамі. Выходзілі польскамоўныя газеты, існавала Польскае аддзяленне Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў, якое ўзначальваў Уладзімір Кавальскі. У 1929 г. з удзельнікаў тэатральнага гуртка польскай моладзі пры клубе імя Р. Люксембург быў створаны Польскі дзяржаўны вандроўны тэатр, які гастраляваў па рэгіёнах рассялення палякаў. Яго асноўная сцэна знаходзілася ў Мінску ў будынку касцёла св. Сымона і Алены. У ліпені 1932 г. тэатр стаў Дзяржаўным польскім тэатрам БССР, аднак ужо ў 1935 г. быў расфарміраваны.

У 1928—1932 гг. на аснове паўночнага дыялекту была аформлена цыганская пісьменнасць, пачалі выходзіць кнігі і часопісы.

Канец 20-х — першая палова 30-х гг. сталі перыядам росквіту яўрэйскай культуры БССР. У 1926 г. быў заснаваны Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР (БелГОСЕТ), які ўзначаліў М. Рафальскі. Яго першымі артыстамі сталі выпускнікі яўрэйскага сектара Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Тэатр знаходзіўся ў будынку былой Мінскай харальнай сінагогі, які зараз належыць Рускаму драматычнаму тэатру. У 1949 г. яўрэйскі тэтр быў зачынены. У Мінску існавала гарадская яўрэйская бібліятэка імя І. Л. Пераца, якая была зачынена ў 1938 г. Яе фонды былі перададзены Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна, дзе быў створаны яўрэйскі аддзел (каля сарака тысяч кніг). У гэты перыяд у БССР актыўна развіваўся яўрэйскі друк. Выдаваліся часопісы «Штэрн» (Зорка), «Дер юнгер арбетер» (Малады рабочы), штодзённая газета «Кастрычнік» і піянерская газета «Дер юнгер ленінец» (Малады ленінец) на яўрэйскай мове (ідыш). Пры Саюзе пісьменнікаў БССР працавала яўрэйская секцыя. Яна налічвала больш за сорак пісьменнікаў. У 1931 г. у Мінску адбылася сусветная канферэнцыя яўрэйскіх пісьменнікаў. Аднак з другой паловы 30-х гг. працэсы развіцця яўрэйская культуры на Беларусі былі згорнуты.

У 20—30-я гг. XX ст. працэс актывізацыі татарскай меншасці стрымліваўся. На думку даследчыка І. Канапацкага, гэта адбылося з-за недахопу ў дзяржаўных органах БССР сродкаў і вялікай колькасці сярод татараў выхадцаў з дваранскага стану, да якіх ставіліся з падазрэннем [5, с. 41]. Усё ж у 1928 г. у Мінску была адчынена татарская хата-чытальня. У якасці нацыянальнага татарскага культурнага цэнтра яна праіснавала да 1929 г., а пасля была ператворана ў раённую і пазбаўлена нацыянальнага статуса.

Культурна-асветніцкай працай кіравала Латышская секцыя Народнага камісарыята асветы БССР. На латышскай мове друкавалася літа-

ратура, існавалі спецыяльныя перадачы на радыё. Актыўна здзяйсняліся культурна-асветніцкія праграмы літоўцаў Беларусі. Дзесяць гадоў (1927—1937 гг.) выдавалася газета «Raundonasis Artojas» (Чырвоны араты). На літоўскай мове выходзілі радыёперадачы. Пры Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (з 1932 г. СП БССР) з 1928 г. існавала літоўская секцыя. Пры Белдзяржвыдавецтве ў 1932 г. быў утвораны літоўскі сектар.

Значная роля ў працэсе эмансіпацыі этнічных меншасцей БССР надавалася стварэнню ўласных навуковых устаноў і арганізацыі нацыянальнай гісторыі і культуры. Цэнтрам такіх устаноў і даследчыцкіх праектаў стаў Інбелкульт. Пры ім з 1922 г. працаваў польскі сектар, які займаўся вывучэннем матэрыяльнай і духоўнай культуры палякаў у БССР. Этнаграфічная камісія гэтага сектара правяла некалькі экспедыцый па месцах кампактнага рассялення палякаў.

Пры Інбелкульце з 1927 г. (пазней пры АН БССР) таксама працавала Латышская камісія (з 1929 г. латышскі сектар АН БССР, з 1933 г. — латышская секцыя Інстытута нацменшасцей АН БССР), якая вывучала гісторыю і культуру латышоў. Падчас сталінскіх рэпрэсій 30—40-х гг. XX ст. большасць культурна-асветніцкіх і навуковых праграм латышоў была згорнута.

У 1922 г. пры Інбелкульце была адчынена кафедра гісторыі Літвы (з 1929 г. — літоўскі сектар АН БССР, з 1933 г. — літоўская секцыя Інстытута нацменшасцей АН БССР).

У 1922 г. быў створаны яўрэйскі аддзел Інбелкульта. З 1925 г. у яго склад уваходзіла чатыры камісіі. У 1928 г. яўрэйскі аддзел быў трансфармiраваны ў сектар пры АН БССР. Пры ім выдаваўся навуковы часопіс «Цайтшрыфт» (Штогоднік), у якім друкаваліся даследаванні супрацоўнікаў сектара. У 1932 г. на базе яўрэйскага сектара Інбелкульта быў заснаваны Інстытут яўрэйскай пралетарскай культуры пры АН БССР. У ім дзейнічала пяць камісій: лінгвістычная, гістарычная, літаратурная, сацыяльна-эканамічная і антырэлігійная.

Усярэдзіне 1935 г. інстытуты і сектары, якія даследавалі гісторыю і культуру нацыянальных меншасцей на тэрыторыі Беларусі, былі аб'яднаны ў Інстытут нацыянальных меншасцей. Аднак ужо ў маі 1937 г. ён быў ліквідаваны.

Такім чынам, можна з упэўненасцю гаварыць аб стварэнні і рэалізацыі савецкімі ўладамі БССР праекта мадэрнізацыі сацыяльных структур этнічных меншасцей і арганізацыі ўмоў для іх інтэграцыі ў беларускае грамадства. Аднак змена палітычнага курса на рубяжы 20—30-х гг.



XX ст. не дазволіла завяршыць гэты праект. Большасць праграм была спынена. Тым не менш вопыт комплекснай сацыяльна-культурнай і эканамічнай мадэрнізацыі, які быў назапашаны савецкімі ўладамі БССР, да сённяшняга часу застаецца актуальным, асабліва ва ўмовах нарастаючай ва ўсім свеце міжэтнічнай напружанасці.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Mironowich, E.* Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX w. / E. Mironowich, S. Tokć, R. Radzik. Bałystok, 2005.

2. *Гарбацкі, А. А.* Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVII — пачатку XX ст. / А. А. Гарбацкі. Брэст: Выд-ва Брэсцкага дзярж. ун-та, 1999.

3. *Дубнов, С.* Еврейская Польша в эпоху разделов / С. Дубнов // Еврейская старина. 1990. Т. 2; 1911. Т. 2.

4. Западные окраины Российской империи / под ред. А. Миллера. М.: Новое литературное обозрение, 2006.

5. *Канапацкі, І.* Ях'я Гембіцкі — лідэр нацыянальнага адраджэння беларускіх татараў / І. Канапацкі //Беларускі гістарычны часопіс. 2005. № 11.

6. *Миллер, А.* Империя Романовых и национализм / А. Миллер. М.: Новое литературное обозрение, 2006.

7. *Тугай, У. В.* Латышскі этнас у сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці Беларусі / У. В. Тугай. Мінск: БДПУ, 2003.